# Весткі й Паведамленьні

*інфармацыйны бюлетэнь Згуртаваньня “ПАГОНЯ”*

**Viestki j Paviedamleńni**

Сусьветнае сеціва: ***e-krama.com, pahonia.com***
Электронны адрас: ***viestki@mail.com***
✉ ***P. O. Box 3225, Farmingdale, NY 11735***

**№ 6 (604)**
**Чэрвень 2016 г.**


## Чарнобыльскі мітынг “Пагоні”

Сёлета спаўняецца 30 год з трагічнага дня, калі выбухнуў Чарнобыль, і калі значная частка Беларусі апынулася ў зоне радыяцыйнага забруджаньня, на якой дасюль жывуць людзі – сотні тысяч людзей. У аўторак 26-га красавіка каля штаб-кватэры ААН на Мангэтане прайшоў мітынг, прысьвечаны 30-й гадавіне Чарнобыльскай навалы. Мітынг быў ладжаны Беларуска-Амэрыканскім Згуртаваньнем “Пагоня”, і прасутнічала на ім больш 50 чалавек. Напачатку перад прысутнымі выступіў старшыня Згуртаваньня “Пагоня” сп. Віталь Зайка. Прамоўца нагадаў прысутным пра асноўныя моманты падзеяў, зьвязаных з Чарнобыльскай атамнай аварыяй, узгадаўшы спробы савецкіх кіраўнікоў Беларусі схаваць інфармацыю пра трагедыю, а потым дэзынфармаваць насельніцтва, імкнучыся здабыць ухвалу маскоўскіх гаспадароў. Іхную справу падхапіў рэжым Лукашэнкі, што адмяніў ільготы для ліквідатараў аварыі й жыхароў пацярпелых ад радыяцыі раёнаў. Па ацэнках экспэртаў, радыяцыйна забруджанай застаецца каля чвэрці тэрыторыі краіны, на якой жыве кожны восьмы беларус – больш за мільён чалавек. Гэта адбіваецца на стане здароўя насельніцтва Беларусі, сярод якога працягвае расьці колькасьць анкалягічных захворваньняў. Між тым праграмы па дапамозе дзецям Чарнобылю, якія праводзіліся дабрадзеямі з замежных краінаў, асабліва Нямеччыны, Японіі, ЗША, Канады, Італіі, дзякуючы перашкодам збоку рэжыму, былі спыненыя. Спынілася таксама актыўная гуманітарная дапамога з-за мяжы, якую рэжым спрабаваў быў узяць пад свой жорсткі кантроль. Лукашэнка штогод прыяжджаў у забруджаныя радыяцыяй раёны і рабіў заявы, што жыцьцё там і сельгаспрадукцыя зусім бясьпечныя.

Працягваецца выклікаючае засьцярогу ажыцьцяўленьне вынесенага рэжымам Лукашэнкі без належнага грамадзкага кантролю й інфармаваньня рашэньня пра пабудову атамнай станцыі на Астравеччыне. Адбываецца гульня ў паддаўкі з расейцамі, замест дагляданьня інтарэсаў сваёй краіны рэжым забясьпечвае выгоды для чужой. Манаполія Расеі, як і няпэўная якасьць расейскіх нуклеарных тэхналёгіяў, пагражаюць будучыні Беларусі. Менавіта таму Беларуска-Амэрыканскае Згуртаваньне “Пагоня” выказала на мітынгу салідарнасьць беларусаў Амэрыкі з пацярпелымі ад радыяцыі жыхарамі Беларусі, а таксама свой пратэст супраць новай нуклеарнай небясьпекі ў выглядзе атамнай станцыі, стварэньня перадумоваў для патэнцыйнага новага Чарнобылю і супраць далейшага ўцягваньня Беларусі ў залежнасьць ад Расеі.

Мітынгоўцы пратэставалі супраць дзеяньняў рэжыму Лукашэнкі, хаваньня сапраўднай аб’ектыўнай інфармацыі пра стан справаў, зьвязаных з радыяцыйнай сытуацыяй у Беларусі. Лунalі беларускія нацыянальныя сьцягі, прысутныя трымалі плякаты: “30 год Чарнобыля – 30 год болю і пактаў”, “Беларусь мае 2 бяды – Лукашэнку і Чарнобыль”, “Stop Luka”. На мітынгу гучэлі поклічы “Жыве Беларусь!”, “Не – новаму Чарнобылю!”, “Беларусь – так! Лукашэнка – не!”, “Далоў Лукашэнку”. На прыканцы мітынгу ўдзельнікі супольна прасьпявалі беларускі нацыянальны гімн “Мы выйдзем шчыльнымі радамі”.

***Віталь ЗАЙКА***

## Запрашаем на Купальле

Шаноўныя сябры, запрашаем разам адзначыць старадаўнюю традыцыю Купальля і правесьці незабыўны адпачынак у кампаніі суродзічаў на ўлоньні прыроды. Чароўны купальскі вечар пачнецца з прызначэньня гаспадароў сьвята Князя-Купаліша і Купалінкі, якія распаляць вогнішча. Уночы нячысьцікі выкрадуць Купалінку... Каб даведацца пра іншыя падзеі і абрады купальскай ночы, далучайцеся да нас. Пачастуйцеся крупнікам, у склад якога па традыцыі ўваходзяць 27 лекавых траваў. Скокніце праз вогнішча з тым, хто вам не абыякавы, не разьняўшы рук. Можа, каму з вас пашанцуе знайсьці сваю папараць-кветку ў гэтую чароўную ноч. Адрас парка:

***Ward Pound Ridge Reservation***
***Cross River, NY 10518***

Сьвята пачынаецца **ў суботу 18-га чэрвеня** прыкладна а **6-й** гадзіне вечара і будзе доўжыцца цягам усёй самай кароткай ночы года. Шукайце паляну з хаткамі (shelters) 1, 2, 3 і 4. 1 – для Купальля, астатнія можна займаць, калі плянуеце начаваць. Месца ў парку зарэзэрванае з 11-й раніцы ў суботу да 11-й раніцы ў нядзелю.

Хаткі выглядаюць так: тры каменныя сьцяны і дах, на падлозе пясок, ёсьць грылі. Умовамі парку колькасьць удзельнікаў абмежаваная да 40 чалавек.

Даезд цягніком ад станцыі **Grand Central** да прыпынку **Katonah** (прыкладна гадзіна). Парк знаходзіцца ў 10 хвілінах язды на аўта ад станцыі. Дамоўцеся загадзя, каб вас падвезьлі.

Кошт **$25** дарослым, **$10** дзецям. Прывозьце з сабою ці апранайцеся ў беларускія строі, вышыванкі ці адзеньне з нацыянальнай сымболікай; дзяўчатам – доўгія спадніцы, хлопцам – доўгія сьветлыя штаны (ня шторты). Патрабаваньні да адзеньня толькі на час сьвяткаваньня, бо гледачоў ня будзе, удзел будуць браць усе.

Прывозьце ежу, спальныя мяшкі, намёты, раскладныя крэслы, ліхтарыкі, закрыты абутак у лес (ня сланцы). Алькаголь у парку забаронены.

Кошт уезду ў парк **$8** з аўта ў незалежнасьці ад колькасьці пасажыраў, пасьля **5-й** вечара ўезд бясплатны.

Шчыра просім ня ставіць абвестак аб гэтай імпрэзе ў Фэйсбук і не друкаваць прыватную інфармацыю арганізатараў у СМІ.

***Пётр і Лена РЫЖЫЯ***, емэйл: ***lenabelarus@yahoo.com***

# Травеньскі сход Згуртаваньня “Пагоня”

У суботу, 14-га траўня, у Доме Маракоў на Мангэтане прайшоў чарговы сход Беларуска-Амэрыканскага Згуртаваньня “Пагоня”.

У парадку дня сходу быў заплянаваны сэмінар-гутарка, на якой асобы, што атрымалі адукацыю і знайшлі працу ў Амэрыцы, а таксама дасягнулі пэўнага прафэсійнага ўзроўню, мелі нагоду падзяліцца сваім досьведам і адказаць на пытаньні. Напачатку сходу сп. Віталь Зайка, старшыня Згуртаваньня, распавёў пра мэты сэмінару, а таксама закрануў некаторыя рэчы, зьвязаныя зь сёнешнім станам адукацыі ў ЗША. Ён, у прыватнасьці, згадаў пра агульнаадукацыйныя прадметы, што цяпер цалкам трапілі пад уплыў левамрадыкальнай ідэалёгіі, і ўсё больш нагадваюць сваім дагматызмам і нецярпімасьцю славутыя савецкія курсы “навуковага камунізму” і “гісторыі КПСС”. Прамоўца заклікаў ужываць глузды, лёгіку і здаровы сэнс для аналізаваньня ўсяго, што зьвязанае з грамадзкімі й палітычнымі рэчамі, і адзначыў, што беларускім людзям, што бачылі ідэалягічнае махлярства рэжыму Лукашэнкі, гэта ня можа быць цяжка.

Затым сп. Зайка даў слова першаму экспэрту – праграмісту і вэб-распрацоўшчыку сп. Дзьмітрыю Джуму. Ён распавёў пра адукацыю ў Менскім лінгвістычным унівэрсытэце і першыя гады ў Амэрыцы, калі працаваў дыспэтчарам у кампаніі перавозак, у ліфтавай кампаніі, у Фіат-кампаніі, у рэстаране афіцыянтам. Думаў, каб стаць праграмістам, але ўважаў, што на гэта пойдуць гады вучобы, вялікія грошы, вывучэньне матэматыкі. Узяўся дасьледваць пытаньне – аказалася, ёсьць адмысловыя школы, якія вучаць праграмаваньню за кароткія тэрміны і гарантуюць атрыманьне працы. Каб трапіць у іх, ужо трэба мець пэўны ўзровень ведаў, якога Дзьмітры дасягнуў праз самаадукацыю – падручнікі, курсы ў сеціве. Грошы за навуку даволі вялікія за 3 месяцы вучобы, здабыў праз пазыкі на крэдытныя карткі. Потым быў інтэнсіўны працэс вучобы, цяжкія хатнія заданьні, але гэты працэс пакінуў, поруч з адкакурсьнікамі, найлепшыя ўражаньні, у параўнаньні з ягоным папярэднім вучэбным досьведам. Знайсьці першую працу ўзяло некалькі месяцаў. Гэта быў start-up, маленькая кампанія, якая неўзабаве закрылася, але гэта быў першы досьвед і прыступка да далейшых працаў. Потым было яшчэ некалькі прамежкавых працаў, пакуль не знайшлася цяперашняя. Гэта праца на Exo Group, што аказвае паслугі ў падрыхтоўцы вясельляў. Фірма досыць вялікая, там ня цісьнуць па тэрмінах праекта, паважаюць супрацоўнікаў і ймкнуцца затрымаць іх на далейшы тэрмін, што мае месца далёка не ва ўсіх кампаніях.

Затым выступіў сп. Яўген Стэцко, які працуе ў галіне блізкай да папярэдняга прамоўцы. Сп. Стэцко таксама працаваў дыспетчарам, адзначыў, што гэта вельмі падвышае ўзровень практычнага валоданьня ангельскай мовай. Прамоўца па адукацыі інжынэр-эканаміст па энэргетыцы, раней не працаваў у інфатэхналёгіях, але крыху меў досьвед “сеціўнага маркетынгу”. Вырашыў стаць праект-мэнэджэрам. Падвучыўся, авалодаў мовамі праграмаваньня JavaScript, Ruby, атрымаў сэртыфікат. Потым стаў шукаць працу празь сеціва і праз газэты. Сайт Smart Recruiters даў заданьне, адаслаў ім. Потым выклікалі на інтэрвію і адразу далі працу. У пэўным сэнсе гэта быў выпадак – кампаніі патрэбен быў чалавек, і вельмі хутка. Цяпер працуе віцэ-прэзыдэнтам па тэхналёгіях, што немалое дасягненьне для чалавека ягонага ўзросту. Сп. Яўген Стэцко параіў не баяцца падаваць на любыя прапановы, бо часта крытэры завышаюцца, і проста адвага чалавека ў пэўным сэнсе ўзнагароджваецца. Таксама важна паказаць, што ўмееш вучыцца і праяўляеш энтузіязм да працы. Цяпер колькасьць гадзінаў працы ненармаваная, і гэта можа быць мінусам, але пакрываецца аплатай ды іншымі выгодамі, здабыцьцём досьведу і ўзмацненьнем рэзюмэ.

Наступны выступоўца сп. Алесь Тур пачынаў сваю працоўную дзейнасьць у Нью-Ёрку з самых нізоў – працаваў прыбіральшчыкам, перабіраў сьмецьце, але потым, крыху агледзеўшыся, перайшоў на лепшую працу – бармэнам, аж пакуль ня вырашыў, параіўшыся са знаёмымі, пайсьці вучыцца ў Калюмбію. Перш хацеў у Барух-коледж, бо Калюмбійскі ўнівэрсытэт задарагі, але амэрыканцы-знаёмыя казалі: “Не, толькі Калюмбія, яно аплоціцца табе”. Змог сабраць і адаслаць усе дакумэнты з рэкамэндацыямі, напісаць заяву-эсэ, чаму хацеў там вучыцца, знайшоў часткова крэдыты. Працаваў на дзьвух працах няпоўны час, але быў цікаўны, хацеў пра ўсё даведацца. Пасьля ўсіх зьніжак і стыпэндыяў заставалася аплата больш за 30 тысяч на год. Стаў братчыкам, frat-member, там моцныя сувязі й знаёмствы, што прыдаюцца пазьней. Так прайшлі тры з паловаю гады напружанай вучобы, але нарэшце ўдалося скончыць унівэрсытэт. У Калюмбіі ёсьць спэцыяльны аддзел,



заканчэньне на бачыне 3

# “Зубар” у Чэхіі

8-га красавіка сёлета ў літаратурнай кавярні ў Празе адбылася прыемная і нязмушаная сустрэча з прадстаўніком тактычнай групы “Беларусь” з пазыўным “Зубар”, які наведаў Чэхію, каб азнаёміць мясцовую ўкраінскую і беларускую дыяспары пра падзеі, што адбываюцца на ўсходзе Украіны і, перш за ўсё, пра дзейнасць тактычнай групы “Беларусь”.

Мне выпала магчымасьць асабіста пагутарыць зь беларускім дабраахвотнікам, які ў сілу палітычных абставінаў у Беларусі пажадаў застацца ананімным. Мноства пытаньняў задалі і яшчэ больш адказаў атрымалі ўдзельнікі сустрэчы. Слухачы з захапленьнем ўслухоўваліся ў кожнае слова і бязьмерна шанавалі ахвярнасьць беларускага патрыёта.

“Зубар” пачаў сваю вайсковую кар’еру ва Ўкраіне ў складзе дабраахвотніцкага батальёну “Азоў” пад камандаваньнем Андрэя Бялецкага. А калі пачалі фармаваць асобны аддзел тактычнай групы “Беларусь”, што аб’яднала каля 100 беларускіх дабраахвотнікаў пад кіраўніцтвам камандзера з пазыўным “Грак”, адправіўся менавіта туды. На гэта ў “Зубра” была ня толькі палітычная матывацыя, але і вайсковая. У тактычнай групе значна лепшае навучаньне, строгая дысцыпліна, і менавіта ў беларускім аддзеле ён атрымаў магчымасьць браць удзел у баях на Данбасе, бо яе камандаваньне самастойна выбірае месца бою, тады як у “Азове”, які цяпер у складзе Нацыянальнай гвардыі Ўкраіны, даўжэй “адседжваліся” ў тыле.

На ўсходзе Ўкраіны, па словах “Зубра”, ваюе на ўкраінскім баку таксама шмат іншых дабраахвотнікаў. Сярод іх швэды, палякі, харваты і Францускі Замежны Легіён. А сэрбскія чэтнікі – на баку сэпаратыстаў. “Зубар” падкрэсьліў, што сэрбы яшчэ раз, з часоў югаслаўскага канфлікту, праявілі сябе прарасейскі настроенай нацыяй. Харваты ж, распавёў “Зубар”, дапамагаюць Украіне, бо памятаюць зьверствы сэрбаў, падтрыманыя Расеяй. Менавіта таму на баку Ўкраіны ваююць замежнікі, краіны якіх Расея і яе імперская ідэя ў той ці іншы пэрыяд зачапілі і пакінулі сьляды.

“Зубар” па дарозе ў Чэхію наведаў Заходнюю Ўкраіну і Закарпацьце, убачыз там чыстыя абочыны дарог, брукаваныя вуліцы, ахайныя домы і працавітасьць жыхароў у адрозьненьне ад савецкага мэнталітэту жыхароў Данбаса.

Я пацікавіўся, ці гатовыя ваяры тактычнай групы “Беларусь” ваяваць супраць “рускага сьвету” і ў іншых “гарачых кропках”, бо Расея адкрыла яшчэ адзін фронт у Сырыі; раздуваецца далейшы канфлікт паміж Арменіяй і Азэрбайджанам. Той адказаў ляканічна: “Мы гатовыя абараняць усіх, хто пакутуе ад “рускага сьвету”, але нашая барацьба ўпіраецца ў фінансаваньне. Ва Ўкраіне нам дапамагаюць валанцёры, а вось ці будзе такая дапамога, напрыклад, у Азэрбайджане, невядома. Група гатовая ваяваць дзе заўгодна, але трэба мець з чым ваяваць.”

Таксама я задаў “Зубру” даволі супярэчлівае пытаньне: магчыма варта падзяліць Украіну ўздоўж франтавой лініі і аддаць часткі Данецкай і Луганскай вабласьцей Расеі. Тады Ўкраіне будзе лягчэй уступіць у ЭЗ і НАТО, завяршыўшы такім чынам узброены канфлікт. На гэта “Зубар” адказаў: “Данбас трэба было аддаваць Расеі раней, пакуль яшчэ ўкраінцы не ахвяравалі там тысячы жыцьцяў, а цяпер трэба зрабіць усё, каб тыя ахвяры не былі марныя.”

Я азнаёміў “Зубра” зь дзейнасьцю Згуртаваньня “Пагоня” ў ЗША, на што “Зубар” адказаў, што вельмі шануе беларускую дыяспару на Захадзе, якія падтрымоўвае і захоўвае нацыянальныя каштоўнасьці, і адначасна расчараваны тым, што ва Ўкраіне, якая мяжуе зь Беларусьсю, няма моцнай дыяспары, але і не зьдзіўляецца гэтаму, бо Ўкраіна працяглы час знаходзіцца ў глыбокім эканамічным крызісе, а палітычна гнаныя беларусы эмігруюць ці ў разьвіцейшыя краіны, ці на фронт ва Ўкраіне.

У заключэньне я падараваў беларускаму патрыёту свае кнігі “Вяртаючыся на даўніну”, “Згубленае каханьне” і падзякаваў ад усяго сэрца за ягоную ахвярнасьць.

Слава Ўкраіне і Жыве Беларусь!

**Алег ПАЎЛІЎ**



*“Зубар” і пісьменьнік Алег Паўліў*

# Травеньскі сход

**заканчэньне з бачыны 2**

што займаецца дапамогай у працаўладкаваньні, туды прыходзяць рэкруцёры ад карпарацыяў. Але адразу пасьля сканчэньня ўнівэрсытэту Алесь паезьдзіў па сьвеце шэсьць месяцаў, проста падарожнічаў. Потым, вярнуўшыся, змог даволі хутка прайсьці сэрыю інтэрвію і атрымаў працу ў фінансавай кампаніі. Дыплём Калюмбіі, як і казалі сябры калісьці, адчыняе шмат дзьвярэй, працуе на цябе. Цяпер працуе на пасадзе аналітыка па банкаўскм інвэставаньні, і працоўны дзень часам складае 16 гадзінаў, не бывае выходных, але гэта балянсуецца прыстойным заробкам, і вось ужо ўлетку ён пляную завершыць выплату студэнцкага доўгу.

Затым выступіла сп-ня Вольга Бобух, яна працуе рахункаводам. Вольга распавяла пра сябе, як пяць год працавала на круізных лініях, аб’ехала амаль увесь сьвет. Потым вырашыла спыніцца ў Нью-Ёрку, і хутка паўстала пытаньне: што далей, куды ісьці. Вырашыла вывучаць бухгальтарскую справу, і ўзяла minor па эканоміцы. Паступіла ў Хантэр-коледж, у сыстэме гарадзкога ўнівэрсытэту Нью-Ёрку, адносна недарагі. За 2,5 гады вучобы аплата была каля 12 тысяч, частка гэтых грошай вярнулася праз tax returns ды інш. Увесь гэты час Вольга таксама працавала, брала колькасьць прадметаў-крэдытаў, якую магла вытрываць. Шкадуе, што не зьвяртала належнай увагі на інтэрншыпы – празь іх шмат хто рыхтуе сабе месца працы, а да таго ж у некаторых фірмах інтэрнам плоцяць немалыя грошы. На працу паспрабавала паступіць, як і хацела, у вялікую кампанію, падала заяву ў Прайс-Ўотаргаўз-Купэр. Там праверылі дыплём, кваліфікацыю, мінулае і прынялі на працу. На старт далі 59 тысяч, умовы вельмі добрыя, ніхто не кантралюе, але праца мусіць быць зробленая ў тэрмін. Рахуе падаткі для вялікіх карпарацыяў, такіх як Ўолт Дыснэй, напрыклад.

Усе выступы былі зь цікавасьцю выслуханыя прысутнымі, прамоўцам было зададзена шмат пытаньняў. Усе ў адзін голас казалі, што такія сустрэчы-сэмінары вельмі карысныя і патрэбныя, каб іх было болей, па розных спэцыяльнасьцях. Заплянавана правесьці падобны сэмінар на наступным, чэрвеньскім сходзе “Пагоні”.

**Віталь ЗАЙКА**

# “Галгатня пра ЗыШыА”

## Prozac Nation

Амэрыка стварыла моду на дэпрэсію. Дакладней, не Амэрыка, а Галівуд. Што ж, калі ваш бацька тыран, маці вар’ятка, дзед зьдзіцянеў, малодшы брат псыхапат, а ўвесь сямейна-грамадзка-сацыяльны лад перавернуты дагары нагамі, то нічога дзіўнага, што ў вас бясконцая дэпрэсія, біпалярнасьць ці нешта яшчэ горшае. Напрыклад, агульны неспакой, паніка, паслятраўматычны стрэс, абсэсійна-кампульсіўнае растройства і г.д. Як кажуць нашыя бабулі – усе хваробы ад нэрву, або нэрв усхадзіўся. На дапамогу прыходзяць антыдэпрэсанты, а прыходзіць ёсьць да каго. Дэпрэсія ў кожнага дзясятага амэрыканца, а 80% дэпрэсій застаюцца недыягназаванымі. На змаганьне з гэтымі хваробамі ідуць 42 мільярды даляраў у год, то бок, адна траціна ўсяго бюджэту, адведзенага на ўсе псыхічныя захворваньні...

Калі вам нейкім чынам пашанцавала не пакутаваць ад зьніжэньня настрою, то вам прыдумаюць іншую хваробу, ну і, зразумела, прапануюць цудоўны лек ад яе. У вас, напэўна, сындром неспакойных ног. Гэта калі вы адчуваеце напружаньне ў лытках. Не? Тады, магчыма, у вас сындром сухіх вачэй. Калі адчуваеце дыскамфорт, міргаеце вачыма, калі вочы стамляюцца і пякуць, то гэта дакладна сындром сухіх вачэй, і ад сьлепаты вас уратуюць толькі вось гэтыя кроплі, за дзесяць даляраў. Ня гэта? Тады ў вас стоадсоткава сьмярдзіць з рота. Бо з рота сьмярдзіць амаль ва ўсіх, асабліва, калі не пачысьціць зубоў. Віншуем, у вас галітоз, вам дапамогуць спэцыяльныя мятныя ледзяшы. Ну можаце і проста пачысьціць зубы, канешне, але гэта, так бы мовіць, ня вельмі прафэсійны падыход да вашай праблемы.




Таму заўсёды, калі вам пачне здавацца, што і вас зачапіла сучасная мода на дэпрэсію, то паспрабуйце сабе прыгадаць, ці пакутавалі ад такой хваробы вашыя дзяды. Не хварэлі? Можа таму што ўвесь час былі пры справах і займацца такой экзотыкай проста не было калі? Ну дык вось. Не хварэйце!

***Віталь ВОРАНАЎ***

### Уплаты ў Згуртаваньне Ñêëàäê³ é àõâÿðàâàíí³:

**В. Вікторчык** ................60
**З. Жарэнка** ..................60
**М. Кражова** .................60
**І. Кудзінаў** ...................60
**А. Літвінка** .................60
**Н. Матыс** ....................60
**Л. Місевіч** ...................60
**І. Нядзьведзкі** ...............60
**М. Самусевіч** ................60
**А. Сергіеня** ..................60
**М. Федасеева** ................60
**Д. Шкураценка** .............60
**А. Юшкоў** ....................60
**В. Юшчык** ....................60

**Усім шчыры дзякуй!**

**Уплаты ў аддзел шліце на адрас:**
*P. O. Box 572*
*New York, NY 10113*

**Чэкі выпісвайце на імя скарбніка Згуртаваньня “Пагоня”** *Viktar Yedzinovich.*

## Наступны сход

**Беларуска-Амэрыканскага Згуртаваньня “ПАГОНЯ”**

адбудзецца ў суботу **11-га чэрвеня 2016 года** на Мангэтане ў Доме Маракоў па адрасу:
***Seafarers and International House***
***123 East 15th Street***
***New York, NY 10003.***

*Даезд цягнікамі падземкі* ***L, N, Q, R, W, 4, 5, 6*** *да прыпынка* ***Union Square****.*

*Будынак знаходзіцца на ўсход ад* ***Union Square*** *па* ***15-й вуліцы*** *на скрыжаваньні з* ***Irving Place****.*

Заля сходаў на 2-м паверсе.

Пачатак: **а 6:00-й** вечара.

-------------------

*Аб месцы і часе правядзеньня сходаў ды іншых імпрэзаў, ладжаных арганізацыяй, можна даведацца, наведаўшы сайт* ***pahonia.com***

Шаноўныя сябры, калі ласка, своечасова аплочвайце гадавыя складкі і падпіску на “Весткі й Паведамленьні”.

### Ахвяравалі на выданьне бюлетэня *Весткі й Паведамленьні*:

**В. Вікторчык** ................30
**З. Жарэнка** ..................30
**Я. Кацярыніч** ................30
**М. Кражова** .................30
**І. Кудзінаў** ...................30
**А. Літвінка** .................30
**Н. Матыс** ....................30
**І. Нядзьведзкі** ...............30
**М. Самусевіч** ................30
**А. Сергіеня** ..................30
**М. Федасеева** ................30
**Д. Шкураценка** .............30
**А. Юшкоў** ....................30
**В. Юшчык** ....................30

**Шчыры дзякуй!**

*Падпісацца на бюлетэнь можна даслаўшы ў рэдакцыю аплату гадавой падпіскі (**$30**) на адрас:*
***Marat Klakotski***
***P. O. Box 3225***
***Farmingdale, NY 11735***

*Чэкі выпісвайце на імя скарбніка “Пагоні”* ***Viktar Yedzinovich****.*